З калегіі Міністэрства адукацыі

# У рэчышчы намечанай рэформы

## Вялася падрыхтоўка да новага навучальнага года

Да пачатку новага навучальнага года застаецца зусім нямнога часу. У сувязі з гэтым калегія Міністэрства адукацыі вырашыла заслухаць пытанне "Аб рабоце структурных падраздзяленняў Міністэрства па падрыхтоўцы да арганізаванага пачатку 2001-2002 навучальнага года". Са справаздачамі выступілі намеснікі міністра Г.Д.Дылян, П.Д.Кухарчык, А.І.Купцоў, начальнік упраўлення прафесійна-тэхнічнай адукацыі Э.М.Ганчар.

Усе члены калегіі, запрошаныя ў першую чаргу, хацелі атрымаць адказ на галоўнае пытанне: як падрыхтаваліся ўстановы адукацыі да новага навучальнага года?

У сістэме агульнай сярэдняй адукацыі падрыхтоўка праводзілася па наступных напрамках: апрабаванне новых вучэбных праграм, вучэбна-метадычных комплексаў для базавай школы ў структуры 12-гадовай школы, работа па апрабаванні 10-бальнай сістэмы ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў навучэнцаў. Затым — праграмнае і вучэбна-метадычнае, кадравае забеспячэнне ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі, матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне (капітальнае будаўніцтва, рамонт); сацыяльная абарона дзяцей, у тым ліку з няпоўных, малазабяспечаных і мнагадзетных сем'яў.

Змены ў дэмаграфічнай сітуацыі вымушаюць рацыяналізаваць сетку навучальных устаноў. Крыху скароціцца колькасць пачатковых і базавых школ у сельскай мясцовасці, будзе адкрыты шэраг устаноў новага тыпу. У цэлым дзеці змогуць атрымаць абавязковую базавую і агульную сярэднюю адукацыі.

Дзяцей падрыхтоўчых класаў гатовы прыняць дашкольныя ўстановы і школы. Як і ў мінулыя гады, пераважная большасць дзяцей у гарадской мясцовасці будзе навучацца ў дашкольных установах. Адначасова прыняты меры па паляпшэнні і ўдасканаленні падрыхтоўкі дзяцей пяцігадовага ўзросту да школы з тым, каб стварыць роўныя магчымасці для паступлення ў школу.

У мэтах удасканалення пераемнасці сямейнага выхавання, дашкольнага і пачатковага навучанняў працягвалася работа па стварэнні цэнтраў развіцця дзіцяці, навучальных устаноў тыпу школа — дзіцячы сад. Да новага навучальнага года распрацаваны прагноз адкрыцця на перыяд да 2004 года 45 дашкольных цэнтраў развіцця дзіцяці, 150 дзіцячых садоў-школ. Падрыхтаваны і ўводзіцца дзяржаўны стандарт для дзяцей пяцігадовага ўзросту "Дашкольная адукацыя. Гатоўнасць школы", які зарыентаваны на забеспячэнне якасці выхавання і навучання, адаптацыю і паспяховае навучанне у пачатковай школе.

Галоўнай задачай устаноў, органаў адукацыі стане павышэнне якасці адукацыі шляхам укаранення сучасных педтэхналогій і кіраванне інавацыйнай дзейнасцю. Міністэрствам распрацаваны рэкамендацыі па ацэнцы якасці школьнай адукацыі па ўсёй вертыкалі кіравання.

У бягучым годзе завяршаецца навучанне дзяцей малодшага ўзросту ў структуры 12-гадовай школы. Для іх 1 верасня выдаюцца неабходныя падручнікі і вучэбныя дапаможнікі, і пачатковая школа будзе поўнасцю забяспечана новымі вучэбна-метадычнымі комплексамі.

Праведзена папярэдняя навукова-тэарэтычная дапрацоўка і эксперыментальная праверка новых вучэбных планаў, праграм і вучэбна-метадычнага забеспячэння ў пятых класах эксперыментальных школ. Гэта дазваляе паслядоўна і эвалюцыйна перайсці на абноўленую адукацыю ў базавай 10-гадовай школе і забяспечыць масавы пераход на абноўлены змест і новы тэрмін навучання ў сярэднім звяне (4 — 9 класах) з 2002-2003 навучальнага года. Цяпер створаны вучэбныя праграмы для 4-5 класаў, каб выкарыстаць іх у рабоце з педагогамі. Пачалося выданне вучэбна-метадычных комплексаў для 4-х класаў дзесяцігадовай базавай школы.

Будзе працягвацца эксперыментальнае апрабаванне зместу адукацыі ў сёмых класах 10-гадовай базавай школы і навукова-тэарэтычная адпрацоўка мадэлі і зместу адукацыі старшай (ліцэйскай) ступені школы. Гэта дазволіць забяспечыць высокі навукова-тэарэтычны ўзровень выкладання прадметаў і далей дыферэнцыраваць працэс навучання на гэтай ступені.

У новым навучальным годзе завершыцца выпрабоўка 10-бальнай сістэмы ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў навучэнцаў.

Па стане на 20 жніўня са 188 падручнікаў плана 2001 года выдадзена 152, у тым ліку для агульнаадукацыйнай школы са 123 выдадзена 96. Да першага верасня будзе выпушчана яшчэ 20 падручнікаў. У сувязі з недафінансіраваннем 16 падручнікаў будуць выдадзены ў верасні — кастрычніку. Гэтыя кнігі часова будуць заменены кнігамі мінулых гадоў выдання.

Пастаянны клопат Міністэрства праяўляе наконт забеспячэння навучальных устаноў педагагічнымі кадрамі. Удасканалена структура іх падрыхтоўкі. Працягваўся прыём абітурыентаў і рыхтаваліся настаўнікі з улікам іх запатрабаванасці. Напрыклад, па спецыяльнасцях тэхналогія (працоўнае навучанне) і інфарматыка, тэхналогія (працоўнае навучанне) і фізвыхаванне, інфарматыка і фізвыхаванне, дапрызыўная падрыхтоўка і фізвыхаванне і г.д.

На сённяшні дзень педагогі ва ўстановы адукацыі прыходзяць з рэгіянальных ВНУ і ССНУ. Павялічана колькасць выпускнікоў, якія атрымліваюць накіраванне на работу. Сёлета заяўкі ўпраўленняў адукацыі аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама на педагогаў склалі 7769 чалавек, размеркавана выпускнікоў ВНУ і ССНУ 8180 маладых спецыялістаў.

Міністэрствам адукацыі вызначаны асноўныя напрамкі інфарматызацыі агульнай сярэдняй адукацыі. Размеркаваны функцыі паміж міністэрствам, упраўленнямі і аддзеламі адукацыі выканаўчых камітэтаў, навучальнымі ўстановамі па гэтым кірунку. Распрацаваны канцэптуальныя асновы стварэння, укаранення і выкарыстання інфармацыйных тэхналогій ва ўмовах рэфармавання школы, рэгламент распрацоўкі, экспертызы і ўкаранення праграмна-метадычных комплексаў педагагічнага і адміністрацыйнага прызначэння.

Для стварэння розных мадэлей з высокай ступенню інфарматызацыі кіруючай і педагагічнай дзейнасці вызначаны пілотныя раёны па ўкараненні інфармацыйных тэхналогій.

Праходзіць рэарганізацыя раённых, гарадскіх і абласных фільматэк у рэсурсныя цэнтры інфармацыйных тэхналогій. Распрацавана нарматыўная дакументацыя па гэтых пытаннях. Выдадзены эксперыментальны падручнік па інфарматыцы для 6 класа. Ва ўстановы адукацыі пастаўлена і апрабавана 37 найменняў праграмна-метадычных комплексаў педагагічнага і адміністрацыйнага прызначэння, падрыхтаваны метадычныя рэкамендацыі для іх выкарыстання.

На пачатак новага навучальнага года 33,2 працэнта базавых, 98,5 працэнта сярэдніх школ, усе гімназіі і ліцэі маюць камп'ютэрныя класы, з іх абсталяваныя сучаснымі камп'ютэрамі 6,6 працэнта базавых, 22,7 працэнта сярэдніх школ і ўсе навучальныя ўстановы новага тыпу. У той жа час зніжаюцца тэмпы пастаўкі камп'ютэрных класаў у школы. За 2000 год за сродкі мясцовых бюджэтаў былі набытыя 202 камп'ютэрныя класы. За першае паўгоддзе 2001 г. — 68.

З ліку незавершаных сёлета працягваецца будаўніцтва 57 школ на 24,4 тыс.месцаў, 76 аб'ектаў не будуюцца з-за адсутнасці фінансавых сродкаў. У бягучым годзе плануецца ўвесці ў эксплуатацыю 17 агульнаадукацыйных школ на 8840 вучнёўскіх месцаў, з іх да 1 верасня — 7 (на 2008 вучнёўскіх месцаў).

Працягваецца будаўніцтва 14 аб'ектаў па прэзідэнцкай праграме "Дзеці Беларусі", з іх па праграме "Дзеці-сіроты" — 12 аб'ектаў, па падпраграме "Дзеці-інваліды" — 2 аб'екты. 9 з 14 аб'ектаў павінны быць пабудаваныя ў 2001 годзе.

На калегіі адзначана, што пад пільным кантролем усіх узроўняў кіравання знаходзіўся рамонт будынкаў устаноў адукацыі. На гэта накіраваны значныя сродкі, у тым ліку мясцовых бюджэтаў, спонсараў. Напрыклад, спонсарская дапамога ў Мінскай вобласці склала 87,6 мільёна рублёў.

У рэспубліцы сёлета асаблівая ўвага ўдзялялася аказанню дзяржаўнай падтрымкі дзецям і сем'ям, якія апынуліся ў экстрэмальных жыццёвых сітуацыях, няпоўным, малазабяспечаным і мнагадзетным сем'ям. Напрыклад, у Магілёўскай вобласці сацыяльная дапамога на суму 203,5 мільёна рублёў аказана 2949 мнагадзетным і няпоўным сем'ям. Апрача гэтага, органамі і ўстановамі адукацыі вобласці бясплатна будуць перададзены падручнікі больш чым 67 тысячам навучэнцаў. Плануецца вызваліць поўнасцю або часткова ад платы за харчаванне амаль 35 тысяч вучняў. Усе школьнікі ў падрыхтоўчых класах (звыш 6000 дзяцей) будуць атрымліваць бясплатныя абеды са сродкаў мясцовага бюджэту.

Павышаныя патрабаванні прад'яўляюцца з боку міністэрства да падрыхтоўкі спецыяльных школ, школ-інтэрнатаў, цэнтраў карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі пунктаў карэкцыйна-педагагічнай дапамогі. І гэта дало свой станоўчы плён.

**Наш кар.**

# Дапаўненне

**да інструктыўна-метадычнага пісьма Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь па курсу "Інфарматыка" на 2001 — 2002 вучэбны год**

У адпаведнасці з вучэбным планам на 2001-2002 вучэбны год і інструктыўна-метадычным пісьмом па інфарматыцы на 2001-2002 вучэбны год ("Настаўніцкая газета" 12 ліпеня 2001 г.) курс "Інфарматыка" ў 8 класе можа вывучацца на адным з наступных узроўняў:

— базавы — 2 гадзіны ў тыдзень (Праграмы сярэдняй агульнаадукацыйнай школы па інфарматыцы 8 — 11 класы, 2000 г, с. 3 — 16);

— паглыблены — 3 гадзіны ў тыдзень (Праграмы сярэдняй агульнаадукацыйнай школы па інфарматыцы 8 — 11 класы, 2000 г., с.17 — 32);

— павышаны.

У школах (класах), якія выбралі вывучэнне інфарматыкі на павышаным узроўні да 2-х гадзін у тыдзень, якія выдзяляюцца абавязкова на інфарматыку (базавы ўзровень), можа быць дабаўлены час са школьнага кампанента.

У гэтым выпадку рэкамендуецца выкарыстоўваць дабаўлены час на рашэнне задач у адпаведнасці з профілем школы (класа).

Семінары

# Нестандартныя заняткі ў Горках

***Адыходзіць спякотнае лета. Для паўсотні настаўнікаў Віцебскай, Гомельскай і Магілёўскай абласцей яно стала незабыўным. У Горках Магілёўскай вобласці адбылася летняя школа-семінар для настаўнікаў нямецкай мовы, арганізаваная інстытутам Гётэ ў Мінску.***

Зместам нашага семінара былі моўная практыка, краіназнаўства, аўдзіраванне, чытанне аўтэнтычных тэкстаў, а таксама методыка-дыдактыка на ўроках нямецкай мовы з прапанаваным актуальным вучэбным комплексам.

Ад усіх слухачоў семінара хачу выказаць вялікую ўдзячнасць кіраўніку летняй школы Олафу Бальбінкеру за цікавыя, часта проста захапляльныя заняткі (з відэафільмамі, аўдыёкасетамі), якія мелі глыбокае выхаваўчае і адукацыйнае значэнне. Мы ўдзячныя і яго намесніку Томасу Гедэлю, таленавітаму, вынаходліваму, з тонкім пачуццём гумару, руплівому носьбіту мовы. Іх любоўю да нямецкай мовы прасякнуліся і мы, наведваючы заняткі па краіназнаўстве.

Надоўга застануцца ў памяці нестандартныя заняткі "Пра харчаванне немцаў", якія паказала нам Таццяна Васіленка. Яна яшчэ раз даказала, што толькі пры пастаяннай самаадукацыі можна дасягнуць канкрэтных вынікаў.

Вопытная педагог-метадыст сцвярджае, што "не кожная методыка падыходзіць усім. Методыка павінна быць камунікатыўнай, гэта значыць як мага менш перакладаць, паўтараць семдзесят разоў у розных варыянтах, таму што памяць функцыянуе як хімічная рэакцыя".

Вялікі багаж ведаў атрымалі мы за гэтыя два тыдні. Гэтыя людзі падарылі нам душэўны спакой, дапамаглі вызваліцца ад мноства ўсялякіх комплексаў.

**Н.КРАЎЧАНКА, І.КАЗІНЕЦ, Т.ШАЎРОВА,**
**слухачы семінара.**
Віцебская вобласць.

Чытач разважае

# Самая лепшая школа

Усе, напэўна, ведаюць анекдот пра Вовачку, якога аднойчы мама даручыла тату забраць са школы. Прыйшоў тата ў школу і бачыць дзверы з надпісам "Самыя лепшыя дзеці". Увайшоў — а Вовачкі там няма. Пайшоў ён да другіх дзвярэй з надпісам "Добрыя дзеці", але і там Вовачкі не аказалася. Тады тата падышоў да дзвярэй, дзе былі "Дрэнныя дзеці" — зноў няўдача. На апошнім паверсе тата ўбачыў дзверы, дзе было напісана "Самыя жахлівыя дзеці". З гарыччу адчыніў ён іх, кінуў сумны позірк на вучняў, а сына сярод іх няма. І тады тата зазірнуў на паддашак. А там — дзверы з вялізным замком і кратамі і надпіс: "Вовачка".

Ёсць у нас самая лепшая школа — гімназія, дзе даволі высокі ўзровень выкладання, куды дзеці прымаюцца па выніках тэсціравання, дзе вучыцца і выхоўваецца эліта. І гэта добра, так і павінна быць.

Ёсць школа рангам ніжэй. Туды ідуць тыя, хто не прайшоў па конкурсе ў гімназію, але там створаны выдатныя ўмовы для дзяцей і ўсё цешыць вока: ад шыкоўнай сталоўкі да чысцюткіх лесвіц.

А вось трэцяя школа, напэўна, для не вельмі добрых дзяцей, і нават колерам яна падобная на безаблічную шэрую сцяну. Магчыма, знешні выгляд падманлівы? Заходжу ўнутр. Не падабаецца ні вахцёр, ні пахі са сталоўкі, якія разыходзяцца па ўсёй школе, ні знешні выгляд дзяцей, апранутых ці то ў паўспартыўнае, ці то ў паўдамашняе адзенне. Вузкія калідоры, крутыя лесвіцы і чатыры паверхі — сам праект будынка не падыходзіць для таго, каб быць школай. Дарэчы, пытанне, з якім я прыйшла, вырашыць не ўдалося з-за адсутнасці адміністрацыі.

У чацвёртую школу я дагэтуль зайсці не адважваюся. Аформленая ў чорна-шэра-белых танах, яна нагадвае будынак для зняволеных. А візітнай карткай яе служаць школьнікі, якія пастаянна кураць і мацюкаюцца.

Але гэта яшчэ не ўсё. Ёсць яшчэ адна школа — за дарогай. Гэтай школай выхавацелі ў дзіцячым садзе палохаюць малых свавольнікаў: "Вось не будзеш слухацца — пойдзеш у школу, што за дарогай, тады даведаешся, як трэба было сябе паводзіць".

**Таццяна ДАКУЧАЕВА.**

# Аптымістычны погляд

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

**— У гэтым годзе ва універсітэце была ўведзена дзесяцібальная ацэнка ведаў абітурыентаў. Як да яе аднесліся абітурыенты?**

— Гэта так. Мы распрацавалі методыку выкарыстання дзесяцібальнай сістэмы і прымянілі яе на фізічным, матэматычным факультэтах і на факультэце рускай філалогіі. Гэта нармальная з'ява. Нас непакоіў той факт, што не ўсе школы працуюць па дзесяцібальнай сістэме, але пытанняў не ўзнікала. Мы праводзілі кансультацыі, тлумачылі методыку правядзення такой сістэмы ацэнкі ведаў тым абітурыентам, у школах якіх прымянялася наша традыцыйная пяцібальная сістэма. Адносіны былі станоўчыя.

**— Вы лічыце, што гэта крок наперад?**

— Я чалавек асцярожны. Шасцібальная сістэма, безумоўна, — гэта крок наперад. Да дзесяцібальнай трэба яшчэ прыгледзецца, бо пачынаць неабходна не з ацэнкі ведаў, а са шляхоў набыцця ведаў. Калі шляхі будуць новыя, калі будзе патрабавацца новая сістэма ацэнкі ведаў, тады гэта крок наперад. А калі ў школе няма ніякіх змен, а ўводзіцца дзесяцібальная сістэма, то тут узнікае пытанне — ці мэтазгодна? Вопыт паказвае, што сур'ёзных непаразуменняў не было. У наступным годзе мы гатовы перайсці на дзесяцібальную сістэму на ўступных экзаменах па ўсіх спецыяльнасцях.

**— У вашай установе існуе мэтавы набор абітурыентаў. Пры якіх умовах яны залічваліся ва універсітэт сёлета?**

— У нас праводзіўся набор абітурыентаў па мэтавых накіраваннях. Лічу, што калі мы вымушаны будзем адмовіцца ад мэтавага набору, а падставы так думаць ёсць, то гэта будзе памылкай, прычым сур'ёзнай.

Як адбывалася залічэнне мэтавікоў? Калі быў конкурс на мэтавае месца, то залічэнне адбывалася на падставе конкурсу. Хто не прайшоў па такім конкурсе, ішоў на агульны. А калі не было конкурсу на мэтавае месца, то абітурыент залічваўся па выніках экзаменаў. Вельмі важна тое, што гэтыя хлопцы і дзяўчаты з сельскай мясцовасці потым да трэцяга курса падцягваюцца і вучацца добра. Ідуць працаваць у школы. І вось калі мы зараз так адштурхнём мэтавае накіраванне, сельская школа застанецца без настаўніка. Мы проста перакрыем усе шляхі значнай часткі таленавітай моладзі да вышэйшай адукацыі.

**— Адкрыццё новага факультэта ў вышэйшай навучальнай установе — гэта развіццё і ўдасканаленне сістэмы адукацыі ўстановы. Чым абумоўлена адкрыццё медыцынскага факультэта ў педагагічным універсітэце?**

— Медыцынскі факультэт — новая з'ява ў сістэме педагагічнай адукацыі. Той адзіны накірунак, якога прытрымліваецца наш універсітэт пры падрыхтоўцы спецыялістаў па дзяцінству быў бы няпоўным без гэтага факультэта. Мы рыхтуем не проста выкладчыкаў, а спецыялістаў рознага профілю, якія забяспечваюць спецыялізацыю падрастаючага пакалення. Гэта журналісты, валеолагі, культурологі... Апошняя ніша, якая была яшчэ пустой — педагагічная медыцына. Гэта не проста медыцынскія работнікі, а людзі падрыхтаваныя ў галіне педагогікі, псіхалогіі, сацыяльнай работы. У перспектыве будзе рыхтавацца медыцынская сястра з вышэйшай адукацыяй, якая будзе забяспечваць медыцынскія паслугі ў школах і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, а таксама выкладаць медыцынскія дысцыпліны: асновы медыцынскіх ведаў, валеалогію і г.д. Прадметы ў школе ёсць, а настаўнікаў няма. Патрэбны спецыялісты. Вось гэта мы мелі на ўвазе, калі адкрывалі медыцынскі факультэт. З адкрыццём гэтага факультэта ў педагагічным універсітэце заканчваецца фарміраванне вышэйшай педагагічнай адукацыі. Мы ўжо рыхтуем спецыялістаў, якія забяспечваюць сацыялізацыю асобы з усіх бакоў. Наш універсітэт гатовы выконваць заказ дзяржавы на спецыялістаў такога профілю.

**Гутарку вяла**
**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

# Да новай сустрэчы, Альхоўка!

***У настаўнікаў-фізікаў Беларусі ёсць адметная традыцыя — штогод у канікулярны час збірацца на метадычны летнік "Альхоўка" для абмеркавання надзённых праблем выкладання фізікі і набыцця новых ведаў. Нядаўна ў летніку прайшлі аўтарскія курсы Мікалая Іванавіча Запрудскага, кандыдата педагагічных навук, загадчыка кафедры педагогікі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі па тэме "Французскія педагагічныя майстэрні ў выкладанні фізікі".***

Вёска Альхоўка знаходзіцца ў маляўнічай мясціне ў Астравецкім раёне Гродзеншчыны. Прыгожы бераг ракі Строча, велічны сасновы бор — тое крэатыўнае (творчае) асяроддзе, у якім раскрываюцца таленты. Вучэбным класам з'яўлялася абсталяваная мэбляй, класнай дошкай утульная паляна.

Быў наладжаны абмен вопытам настаўнікаў з усіх абласцей Беларусі з выкладчыкамі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, метадыстамі абласных ІПК, БДУ, ГрДУ, ліцэяў (пры БДУ, Гомельскага гарадскога № 1, Магілёўскага абласнога), педкаледжа і політэхнічнай гімназіі сталіцы.

Душэўная цеплыня, адкрытасць, прыязнасць у выказванні і адстойванні думак, узаемапавага дазволілі ў найбольшай ступені праявіцца талентам кожнага, парадавацца поспехам адзін другога. Узгадваецца, з якой радасцю "альхоўцы" ўспрынялі вестку пра тое, што вучні Валерыя Барашкава (Магілёўскі абласны ліцэй) былі ўзнагароджаны залатым і сярэбраным медалямі на Міжнароднай алімпіядзе па фізіцы-2001 у Турцыі.

Сутнасць тэхналогіі французскіх майстэрняў — у спецыяльна арганізаванай педагогамі-майстрамі творчай прасторы, якая дазваляе вучням у калектыўным пошуку прыходзіць да "адкрыцця" ведаў, крыніцай якіх у традыцыйным навучанні, як правіла, з'яўляецца толькі настаўнік.

Закон майстэрні: "Рабі па-свойму, зыходзячы са сваіх здольнасцяў, інтарэсаў і асабістага вопыту, і карэкціруй сам сябе". У майстэрні важны не столькі вынік творчага пошуку, колькі сам яго працэс, калі вучні ідуць да ісціны метадам спроб і памылак.

Самастойнае "адкрыццё" дазваляе не толькі лепш заявіць вывучаную праблему, але і выслабаніцца ад школьных страхаў — зрабіць памылку, пазбегнуць папроку за няправільную думку, адразу не вызначыць ход задумы настаўніка і г.д.

Работа ў майстэрні дазваляе выкінуць з працэсу пазнання ўсе метады, звязаныя са знявагай годнасці вучня, выклікае ў яго цікавасці да навучання.

Кожны ўдзельнік летніка застаўся вельмі ўдзячны тым, хто прыклаў шмат намаганняў, каб курсы ў Альхоўцы былі запамінальнымі і эфектыўнымі. Гэта найперш супрацоўнікам Акадэміі паслядыпломнай адукацыі Мікалаю Запрудскаму, Ніне Комаль, Ігару Макатуну, загадчыку аддзела адукацыі Астравецкага райвыканкама Уладзіміру Булавіцкаму, дырэктару выдавецкага дома "Белы вецер" Пятру Шумскаму, членам аргкамітэта летніка Валерыі Такарскай, Але Шалудзяковай, Анатолю Аўсейчыку, Анатолю Шуба.

**Марына КАТЛЯРОВА,**
**метадыст па фізіцы Гомельскага дзяржаўнага абласнога ІПК.**

Скажу добрае слова

# "Дзеці — гэта маё сэрца"

Крыштальная крынічная вада... Яна прыцягвае кожнага да сябе. ЯК хочацца глынуць хоць глыток гэтай вадзіцы! Цудадзейная крынічка выбілася з нетраў беларускай зямлі. Яна напаіла сваёй вадзіцай Леаніда Сямёнавіча і Людмілу Рыгораўну Назаранка, якія жылі ў вёсцы Лужок Маладзечанскага раёна.

Як да чароўнай крыніцы спяшаліся да іх людзі, каб падзяліцца радасцю, разбавіць гора. І заўсёды знаходзілі ў іх сваіх дарадчыкаў, сяброў.

Леанід Сямёнавіч і Людміла Рыгораўна працавалі настаўнікамі. Абодва выкладалі прадметы матэматычнага цыкла. Муж — фізіку, а жонка — матэматыку. Яны давалі вучням веды не толькі па сваіх прадметах, але і вучылі кожнага па-сапраўднаму жыць. Для таго, каб вучыць іншых, трэба быць ва ўсім прыкладам самім. Дабрыня, спагада, любоў — асноўныя рысы характару гэтых людзей.

1966 год. 8 лютага. У гэтых добразычлівых маладых людзей нарадзілася бялявая дзяўчынка-прыгажуня. Нараклі яе Ларысаю.

Расла, набірала моцы Ларыса. Яна "выступала" супраць боек паміж хлопцамі, не дазваляла ім сварыцца між сабой. Там, дзе бавіла свой час Ларыса, чуліся жарты, песні, вясёлы смех. Маленькія далоні дзяўчынкі цягнуліся для дапамогі людзям...

Міналі гады. Падрастала Ларыса. Неўзабаве пайшла ў школу. На працягу ўсіх гадоў вучобы была актывісткай: старастай і камсоргам класа, атраднай важатай.

Даволі паспяхова Ларыса скончыла школу. Калі яна трымала ў руках атэстат сталасці, ужо ведала, што будзе настаўніцай.

Аднак першая спроба паступлення ў Мінскі педагагічны інстытут імя М.Горкага выйшла няўдалай. Але прагнасць да ведаў, здзяйснення сваёй мары былі неўтаймоўныя. Па накірунку райкама камсамола пайшла працаваць у школу старшай піянерважатай і рыхтавалася да паступлення ў інстытут. Работа ў школе вельмі спадабалася. Яна заўсёды вабіла дзяўчыну. Вучні адразу ўбачылі ў ёй "свайго чалавека" і давяралі ёй свае таямніцы. Ларыса Леанідаўна арганізавала для піянераў цікавыя справы. Не, нельга ёй было расставацца са школай. І вырашыла яна паступаць завочна ў педінстытут і працягваць працаваць у школе.

Сямейныя абставіны склаліся так, што сям'я пераехала з Маладзечанскага раёна на Слаўгарадчыну. І зараз можна з упэўненасцю сказаць, што сюды паклікаў яе лёс.

Накіравалі Ларысу Леанідаўну ў Каменкаўскую базавую школу. Слаўгарадскага раёна. Гэта школа адна з першых у раёне ў 1937 годзе была пабудавана з цэглы. Працавалі ўй творчыя, ініцыятыўныя педагогі.

Спачатку Ларыса Леанідаўна была выхавальніцай прышкольнага інтэрната, потым настаўніцай пачатковых класаў, а затым дырэктарам гэтай жа школы.

Тут, у Каменцы, яна сустрэла і сваё першае каханне. Спадабаліся з першага погляду яны, Ларыса і Аляксандр, адзін аднаму. Праз тры месяцы знаёмства згулялі вяселле.

Так утварылася сям'я. Але без дзяцей сям'я не мае ніякага сэнсу. Ларыса Леанідаўна з дзяцінства марыла, што ў сям'і будзе многа дзяцей. У гэтым яе падтрымліваў і муж. Ішлі гады сямейнага жыцця. Пачала расці сям'я. З'явіліся на свет трое дзяцей: дачушка Наташа, сыночкі Мікола і Максім. Усю пяшчоту, ласку аддавалі бацькі дзецям.

Яшчэ ў дзесятым класе пачула Ларыса радыёперадачу: дыктар расказваў пра жанчыну, якая выхоўвала чужых дзетак-сірот. З гэтай думкай жыла яна доўгія гады. Вобраз гэтай жанчыны-маці заўсёды быў з ёю.

І вось наступіў гэты доўгачаканы дзень. Па справах школы яна прыйшла ў раённы аддзел адукацыі. Там вяла размову інспектар РАНа Ганна Пятроўна Ганчарова пра дзяцей з суседняй вёскі, якіх трэба завезці ў школу-інтэрнат.

Загарэліся вочы ў Ларысы Леанідаўны. Яна не падышла, а падбегла да Ганны Пятроўны, каб упэўніцца, што не памылілася ў пачутым. У гэтую першую хвіліну яна цвёрда рашыла, што гэтыя дзеці будуць іхнімі.

Паімчалася хутчэй дадому, каб на сямейным савеце вырашыць гэтае пытанне. Муж і жонка былі аднадумцамі. Падтрымалі іх і дзеці. Пачаліся зборы неабходных дакументаў. Гэта былі радасныя дзеянні. І нарэшце ў сакавіку 1999 года двое дзетак павінны былі стаць сваімі.

Ларыса Леанідаўна і Аляксандр Міхайлавіч паехалі ў Слаўгарад за дзецьмі, да якіх яны ўжо прывыклі, і дзеткі хінуліся да іх. Былі яны яшчэ зусім маленькія: дзяўчынцы Жэні было 5 з паловай гадоў, Славіку — 6 з паловай. Час з'яўлення дзяцей у хату з нецярплівасцю чакалі і ўласныя дзеці. Ад таго, як адкрыюцца дзверы хаты, з якім настроем сустрэнуць залежыць многае. Псіхалагічна да гэтага моманту рыхтаваліся ўсе.

І вось адчыніліся дзверы. З крыкамі "Ура!" сустрэлі іх у хаце. Абдымкі, пацалункі. Знаёмства адбылося. Дзеці адчулі подых роднай хаціны, радасць ад родных ім людзей.

Пры размове з дзецьмі высветлілася, што ў Касцюковічах, у школе-інтэрнаце, выхоўваецца іх брацік Дзяніс. Аляксандр Міхайлавіч і Ларыса Леанідаўна запэўнілі дзетак, што і Дзяніс у хуткім часе будзе тут з імі.

Пасля нядоўгага часу з'явілася і трэцяе дзіця — Дзяніс, якому было дзевяць гадоў. Колькі радасці было ў дзяцей, калі, нарэшце, уся сям'я сабралася разам!

Увагай, клопатамі, павагай былі акутаны дзеці. Іх у сям'і стала шасцёра.

Аляксандр Міхайлавіч і Ларыса Леанідаўна — удумлівыя выхавацелі. Усе дзеці ў сям'і карыстаюцца аднолькавымі правамі. Нікога не выдзяляюць. Няма розніцы паміж сваімі і чужымі дзецьмі. "Па жыцці дзеці для мяне — гэта маё сэрца. Таму што жыву і думаю я толькі побач з імі. І як хораша раніцай прыгатаваць снеданне, накрыць на стол і паклікаць усіх. А затым пачуць: "Дзякуй табе, мама!" — такія словы я пачула ад Ларысы Леанідаўны. Стараюцца бацькі развіць у кожнага дзіцяці свае здольнасці. Таму многа часу адводзіцца для малявання, канструіравання... Амаль усе дзеці вучацца ў музычнай школе. У кожнага з іх свая схільнасць да пэўнага музычнага інструмента. Часта ў доме гучыць музыка, спевы. Наладжваюцца "агеньчыкі", адзначаюцца дні нараджэння. Тут дзеці з'яўляюцца гаспадарамі. Яны разам з маці рыхтуюць "салодкі" стол, праграму самадзейнасці. Маці і бацька добра спяваюць.

Ларыса Леанідаўна і Аляксандр Міхайлавіч ведаюць, што трэба не толькі вырасціць дзіця, але і выхаваць яго карысным для нашага грамадства. Таму з самага маленства яны рыхтуюць дзетак для гэтай мэты. Бацька вучыць хлопчыкаў мужчынскай справе, маці вучыць дзяўчынак жаночай справе. Самае галоўнае, што ў сям'і заўсёды лад і ўзаемаразуменне.

Зараз бацькі жывуць новай марай: узяць на выхаванне яшчэ двух дзетак — хлапчука і дзяўчынку. Для гэтай мэты будуюць сямейны дом, каб быў свой агарод, свая пляцоўка для гульняў. Пачалі дома. У будаўніцтве прымаюць удзел усе дзеці. Бацькі прывыклі ў жыцці ўсё рабіць сваімі рукамі. І таму ўпэўнена крочуць па зямлі. Гэтаму вучаць і сваіх дзяцей. Праца і толькі праца загартоўвае характар. "Я ведаю, што ў жыцці яны пойдуць кожны сваёй дарогай. Але дарога будзе для іх лягчэйшай, калі побач будзем мы, іх бацькі", — гаворыць Ларыса Леанідаўна.

**Браніслава БАЙВЕР,**
**Слаўгарад.**

НА ЗДЫМКУ: Ларыса Леанідаўна сярод сваіх дзяцей.

